# КАСТРЫЧНІКУ-СЛАВА!

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**Літаратура і мастацтва**

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 89 (1726) | Аўторак, 6 лістапада 1962 года | Цана 4 кап.

**НАС ІЛЬІЧ НА АРБІТУ ДА СОНЦА**
**ВЫВОДЗІЎ,**
**РАСЧЫНІЎШЫ ДЛЯ ЎЗЛЁТУ БЯЗМЕЖНЫ**
**ПРАСТОР.**
**СТАРТАВАЛА ДЗЯРЖАВА**
**Ў СЕМНАЦЦАТЫМ ГОДЗЕ,**
**КАБ СЯГОННЯ РУКОЙ ДАКРАНУЦЦА**
**ДА ЗОР.**
**ПА АБЛОМКАХ ІМПЕРЫЙ, АД НАРОДА**
**К НАРОДУ**
**ПЕРАМОЖНА ІДУЦЬ ПАСЛАНЦЫ**
**ІЛЬІЧА —**
**МІР І ПРАЦА, БРАТЭРСТВА, СВЯТЛО**
**І СВАБОДА,**
**ЯК ЗАРУ, УЗНІМАЮЧЫ СЦЯГ З КУМАЧА.**



# СТАЛАСЦЬ

Так, таварыш, вось яна і прыйшла, сталасць нашай роднай дзяржавы—наша з табою сталасць. Нам пад сілу цяпер такія вяршыні, пра якія ніхто, апроч нас, не можа і марыць. Мы бачым цяпер так шырока і далёка, як не бачылі і не маглі бачыць раней. У нашых пачуццяў такая глыбіня, якая прыходзіць толькі з вопытам і мудрасцю.

Яшчэ і яшчэ—у каторы раз!—прыгадваем мы словы вялікага Бялінскага. Словы аб тым, што ён, Бялінскі, зайздросціць унукам і праўнукам сваім, якім выпадзе шчасце бачыць новую, іншую Расію — Расію, што стаіць на чале адукаванага свету, дае законы і навуцы і мастацтву, і прымае ад чалавецтва ўдзячную даніну павагі.

Збылося прароцтва Бялінскага! Збыліся мары людзей, чый светлы розум на вечныя часы застаўся гонарам народа! Расіі, у якой яны жылі, якую бачылі спакутаваным позіркам—галоднай, адсталай, закутай у катаржныя кайданы. Тае Расіі сорак пяць гадоў назад не стала. Расія, аб якой яны марылі, за якую змагаліся,—правільней, не проста Расія, а магутны саюз народаў, «сям'я вялікая, вольная, новая»—вось яна, перад усім светам. Больш таго—перад Сусветам!

На нас глядзяць. Нам зайздросцяць. У нас вучацца. З нас бяруць прыклад.

Помніш, таварыш, яшчэ, здаецца, не так і даўно мы любілі параўноўваць сваю краіну з магутным уцёсам, што горда ўзвышаецца сярод ашалелага варожага акіяна. Акіян люта б'е ў падножжа уцёса, намагаючыся хвалямі падмыць яго і зваліць. Ды дарэмныя патугі—стаіць і стаіць волат-уцёс назло ашаламу ворагу...

Як хутка, як імкліва бяжыць час. І які час! Устарэла параўнанне, што яшчэ нядаўна было выразным і вычарпальным. Не адзінокі волат-уцёс сярод лютага варожага акіяна, а дужы і мудры важак у сям'і гордых арлоў—вось што такое наша краіна сёння!

З нас бяруць прыклад. У нас вучацца. Вучацца маладыя дзяржавы, што будуюць сацыялізм. Вучацца народы, што скінулі каланіяльнае ярмо. Дзяржавы і народы Еўропы, Азіі, Амерыкі, Афрыкі... Як жа гэта здорава, таварыш, што сёння ў краінах чатырох кантынентаў планеты — чатырох з пяці! — усталяваліся і перамаглі ідэі, ад якіх у 1917-м палымнела кроў рабочых, салдат і матросаў, што ішлі штурмаваць Зімні.

Мы шмат спрачаемся, шмат крытыкуем пасля XX і XXII з'ездаў партыі, якія з ленінскай шчырасцю, смеласцю і суровасцю сказалі пра цяжкія памылкі, пра трагічныя, часам беззваротныя страты гадоў культу асобы. Мы з болем успрымаем кожны факт, кожную з'яву, што плямяць і ганьбяць нейкім чынам трапяткое чырвонае палотнішча рэвалюцыйнага сцяга. Але спрэчкі нашы, крытыка наша і боль іменна ад таго, што нязмернай сыноўняй любоўю любім мы сваю вялікую сацыялістычную Радзіму. Ад таго, што, гаворачы словамі паэта,

«Главное в нас
это—наша
Страна Советов,
советская воля,
советское знамя,
советское солнце».

Гэтае галоўнае ў нас—галоўнае і ў нашых справах, у нашых імкненнях, у нашых творах. Ёсць у нас зухаватыя крытыканы, гатовыя закрэсліць сёння ўсё, што стваралася ў савецкай літаратуры, у савецкім мастацтве да XX з'езда партыі. Маўляў, на ўсім ляжыць адбітак культу асобы, «всё от лукавого». Не выплюхвайце з вадою дзіця!—хочацца сказаць гэтым бойкім на пяро і слоўца малайцам. Салдаты Фідэля, паўстанцы Анголы, патрыёты Лаоса, усе, хто рушыў сёння ў астатні рашаючы бой з каланіяльным і капіталістычным прыгнётам, разам з патронамі трымаюць у паходных рукзаках і кайстрах савецкія кніжкі. Што ж іх вабіць у «Разгроме» і ў «Як гартавалася сталь», у «Чапаеве» і ў «Валакаламскай шашы»? Услаўленне культу і кульцікаў? Не, няма яго і не было ні ў гэтых, ні ў іншых лепшых творах савецкай літаратуры і мастацтва. А ёсць там натхняючая героіка, найглыбейшае пранікненне ў свядомасць абуджанага чалавека, чалавека-змагара!

Голас перадавых пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў яшчэ ў даўнейшыя дарэвалюцыйныя часы, называлі ў нашай краіне сумленнем народа, набатам, што кліча да барацьбы. Але як жа часта не чуў таго голасу рабочы і селянін проста таму, што не ўмеў чытаць і пісаць! Як мала было на вёсцы і нават у горадзе дамоў, куды трапляла і дзе чыталася кніга... Дык з чым жа параўнаць нам значэнне літаратуры і мастацтва цяпер, калі наша краіна—не толькі краіна суцэльнай пісьменнасці, а яшчэ і гіганцкага росквіту культуры, нечуванага пранікнення ведаў, кнігі, кіно, тэатра, музыкі, жывапісу ў найшырэйшыя народныя пласты!

Вось чаму і лічыць партыя майстроў літаратуры і мастацтва найпершымі сваімі памочнікамі. Вось чаму і ўскладзена на творы нашы пачэсная і адказная задача маральнага забеспячэння будаўніцтва камунізма. Выканаць гэтую задачу можа толькі той твор, у якім адчуваецца талент і велізарная ўнутраная партыйная перакананасць аўтара.

З радасным усведамленнем сваёй сталасці выйдзем мы заўтра на прыбраныя па-святочнаму вуліцы і плошчы. Высока-высока ў космасе, нібы ўвасабленне вяршынь, што пад сілу Краіне Саветаў, імчыць над намі новы цуд савецкай навукі і тэхнікі—міжпланетная станцыя «Марс-1».

І з маладым пачуццём — пачуцці нашы і ў сталасці маладыя, толькі многа глыбейшыя!—паўтараем мы заклікі, напісаныя на святочных транспарантах:

— Слава Вялікаму Кастрычніку, які адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру крушэння капіталізму і ўсталявання камунізма!

— Дзеячы літаратуры і мастацтва! Змагайцеся за высокую ідэйнасць твораў і мастацкае майстэрства, за цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа!

— Работнікі друку, радыё і тэлебачання, выдавецтваў і культурна-асветных устаноў! Будзьце баявымі памочнікамі партыі ў яе барацьбе за перамогу камунізма!

— Няхай жыве камунізм, які ўсталёўвае на зямлі Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць, Брацтва і Шчасце ўсіх народаў!

# ПАРТЫІ-СЛАВА!

## ЭПОХА НОВАГА СВЕТАПОГЛЯДУ

### БУЙНЕЙШЫЯ МАСТАКІ СЛОВА ПРА КАСТРЫЧНІЦКУЮ РЭВАЛЮЦЫЮ

**Анры БАРБЮС:** Калі вызваленае чалавецтва будзе адзначаць даты свайго вызвалення, дык з найбольшым уздымам, з найбольшым энтузіязмам яно стане святкаваць дзень 25 кастрычніка 1917 года — дзень рашучага пераходу ад камедыі рэвалюцыі да рэвалюцыі сапраўднай. І яно аддасць належнае тым, хто гэта зрабіў.

**Рамэн РАЛАН:** Як толькі выбухнула Кастрычніцкая рэвалюцыя, я вітаў яе адзін з першых. У сваёй творчасці ў 1917—1918 гг. я стаў на яе баку, таксама як у студзені 1919 г. я абараняў спартакаўскую рэвалюцыю і яе герояў.

**Герберт УЭЛС:** Я лічу Кастрычніцкую рэвалюцыю адной з найвялікшых падзей гісторыі. Яна карэнным чынам змяніла ідэалогію ўсяго свету; усе выйшаўшыя раманы, п'есы, публіцыстычныя і гістарычныя працы напісаны пад яе ўплывам. Яе ўплыў куды глыбейшы і шырэйшы, чым уплыў першай французскай рэвалюцыі.

**Рабіндранат ТАГОР:** У нашы дні лозунгі рускай рэвалюцыі сталі лозунгамі ўсяго свету.

**Томас МАН:** Я не хачу, каб хоць хто-небудзь мог усумніцца ў тым, што я з глыбокай прыхільнасцю стаўлюся да найвялікшай гістарычнай падзеі майго часу—да рускай рэвалюцыі.

**Б. КЕЛЕРМАН:** Гістарычна Кастрычніцкая рэвалюцыя азначае ранішняе світанне таго дня, які з'явіўся пачаткам стварэння новага свету... Кастрычніцкая рэвалюцыя падобна на зарніцу, якая асвятліла лёс усіх народаў свету.

**Лу СІНЬ:** Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі я зразумеў, што стваральнікам новага грамадства з'яўляецца пралетарыят.

**Іяганес БЕХЕР:** Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя была часам нараджэння нашай літаратуры. У яе велічы вырасла і ўмацавалася наша літаратура, бо Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя была не проста адной з рэвалюцый,—з яе пачынаецца новы перыяд у гісторыі ўсяго чалавецтва, новае летавылічэнне ў маралі і культуры.

**Ральф ФОКС:** Руская рэвалюцыя, абвясціўшы магчымасць арганізацыі чалавечага жыцця без прыгнечання і эксплуатацыі чалавека чалавекам, на аснове сяброўскага супрацоўніцтва свабодных і роўных народаў, дала нашаму ўяўленню тое натхненне, адсутнасць якога прымушала яго ў нашы дні чэзнуць.

**Міхаіл САДАВЯНУ:** Кастрычніцкая рэвалюцыя дала свету новага чалавека, героя, якога не бачылі мінулыя стагоддзі.




Мал. Л. ЗАМАХА.

